# Вескі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

**№ 4(674)**
**Красавік 2022 г.**



Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*


# Помнікі Тадэвушу Касьцюшку і Кастусю Каліноўскаму ў Брукліне

У суботу, 26 сакавіка, перад будынкам Сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне былі адкрытыя помнікі-бюсты Тадэвушу Касьцюшку і Кастусю Каліноўскаму. У сваім звароце да прысутных старшыня Беларускага Народнага Фронту і старшыня Беларускага Народнага Сакратарыяту сп. Зянон Пазьняк падкрэсьліў, што сёньня ў беларускай грамады Амэрыкі, у беларусаў ва ўсім сьвеце знамянальны дзень, калі выявы беларускіх нацыянальных герояў адкрываюцца тут, на амэрыканскай зямлі, сьведчаць сьвету пра слаўную мінуласьць Беларусі і робяцца зарукаю лепшай будучыні для нашай краіны. Сёнешнія часы няпростыя, Беларусь знаходзіцца пад расейскай акупацыяй, і зь яе тэрыторыі, пры згодзе рэжыму, які ўжо нічога не вырашае, расейцамі вядзецца вайна супраць Украіны, гінуць людзі, разбураецца шматгадовы даробак мільёнаў. Але мы мусім працаваць, мусім уздымаць свой голас, мусім рабіць высілкі, такія як вось гэты пасьпяховы праект па ўзьвядзеньні помнікаў нашым слаўным папярэднікам. Гэта дае надзею і мацуе веру, што Беларусь пераадолее гэты цяжкі час, стане вольнай і сапраўды незалежнай.

Хвілінай цішы была ўшанаваная памяць беларускага добраахвотніка Зьмітра Апанасовіча з баталёну Кастуся Каліноўскага, які загінуў у баях за Ірпень пад Кіевам.

Далей зь невялікімі прамовамі таксама выступілі арганізатары праекту: Натальля Федарэнка, Аляксандар Хомчанка, Мікола Гарошка, Аксана Пятрашка.

З помнікаў былі зьнятыя белыя покрывы, і прысутныя маглі пабачыць бюсты Тадэвуша Касьцюшкі й Кастся Каліноўскага, зробленыя скульптарам сп. Гэнікам Лойкам, які таксама быў прысутны на цырымоніі адкрыцьця. Затым помнікі былі асьвечаныя Мітрапалітам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) Уладыкам Сьвятаславам у суслужэньні з іншымі сьвятарамі й дыяканамі БАПЦ. Затым Уладыка ўручыў скульптару Гэніку Лойку царкоўную ўзнагароду – ордэн Мітрапаліта Мэльхісэдэка (цікава, што выява гэтага ордэну таксама створаная сп. Г. Лойкам). Прагучэў беларускі рэлігійны гімн “Магутны Божа”.

Далей імпрэза была працягнутая ў грамадзкай залі Сабору, вядучай была старшыня БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка. Яна дала слова ганароваму госьцю сп. Джону Кунстэдару, прафэсійнаму фатографу, былому заступніку амбасадара ЗША ў Менску. Прамоўца выступаў па-беларуску, ён павітаў прысутных са сьвятам Дня Волі і распавёў пра сваё захапленне Беларусьсю, выпадкі з свае фа-




тапрактыкі ў Беларусі і пра адмысловыя рысы беларускага народу, што яму, як замежніку, найбольш кінуліся ў вочы – ураўнаважанасьць, годнасьць, прыстойнасьць і працавітасьць. З гумарам ён сказаў пра знаёмую бабулю-беларуску, якая, атрымаўшы поштаю фатаздымкі ад Джона, сказала: “Ну, мы думалі Амэрыка багатая краіна, а там фоты яшчэ толькі чорна-белыя”. Прамоўца падкрэсьліў, што цяпер у Амэрыцы распаўсюджваецца нігілізм і пагарда да сваіх культурных здабыткаў, сваёй гісторыі, сваіх помнікаў. Мы бачым гэта ў Нью-Ёрку, у Вашынгтоне і дзясятках іншых гарадоў, нават помнікі Джэфэрсану і Вашынгтону не пазьбеглі перасьледу. Элемэнты тыраніі ўваходзяць у грамадзкае жыцьцё ЗША. І вы ў гэтых абставінах насьмельваецеся ўсталяваць бюсты двух “нежывучых мужчынаў”, двух “белых эўрапейцаў”, мужных змагароў супраць тыраніі! І гэта выдатна! Хай жа гэтыя помнікі будуць узорам для амэрыканцаў, прыкладам таго, каб аднавіць павагу да сваёй уласнай спадчыны.

Сьледам вядучая дала слова сп. Стэфану Олішу, былому вайскоўцу, які працаваў у каардынацыйных структурах ЗША ў НАТО, а цяпер працуе незалежным аналтыкам па бясьпецы і таксама выкладае ваенную гісторыю ў вайсковай акадэміі Вэст-Пойнце і зьяўляецца спэцыялістам па Тадэвушу Касьцюшку. Сп.




Оліш распавёў, што даведаўся аб праекце ўсталяваньня беларускага помніка Касьцюшку адразу ад некалькіх асобаў і пасьля зьвязаўся з арганізатарамі праекту, бо быў зацікаўлены ведаць пра паходжаньне і месца нараджэньня амэрыканскага героя. Вайсковая акадэмія Вэст-Пойнт перахоўвае памяць аб Касьцюшку і праводзіць штогод ганаровую цырымонію па ўшанаваньні славутага змагара за незалежнасьць Злучаных Штатаў перад ягоным помнікам ў Вэст-Пойнце. Затым сп. Оліш распавёў пра гісторыю ўзьнікненьня помніка ў Вэст-Пойнце і спыніўся на цікавых фактах з жыцьця славутага генэрала: як ён загадваў стварэньнем фартыфікацыяў Фі-

*заканчэньне на бачыне 2*

# Помнікі ў Брукліне

*заканчэньне з бачыны 1*

лядэльфіі і паказаў сябе ў вырашальных бітвах Вайны за Незалежнасьць пад Тэкандэрогай і Саратогай, ваяваў на Поўдні ЗША. Там ён сутыкнуўся са зьявай рабства і падкрэсьліў сваё непрыняцьце рабства, а таксама прыгоньніцтва на сваёй бацькаўшчыне, аб чым ня раз заяўляў. Касьцюшка і Томас Джэфэрсан сталі сябрамі і вялі плённыя размовы аб лёсах Амэрыкі й сьвету. Амэрыканскія паплечнікі прапанавалі Касьцюшку застацца ў Амэрыцы, але ён сказаў, што вяртаецца на бацькаўшчыну змагацца за свой народ і ягоную свабоду. Пасьля, як вядома, Касьцюшка ўзначаліў змаганьне супраць расейскай агрэсіі, але быў захоплены ў палон і пасьля правёў час у вязьніцы, потым выйшаў на волю з ласкі новага цара Паўла, які адкручваў назад шмат якія крокі сваёй маткі Кацярыны. Касьцюшка паставіў умоваю, што зь ім мусяць быць вызваленыя ўсе ягоныя паплечнікі. Затым ён вярнуўся ў Амэрыку залагодзіць свае фінансавыя справы і пакінуў тэстамэнт, у якім адпісаў сваю зямлю ў штаце Агаё, атрыманую ў залік выплатаў за службу, на выплаты для набыцьця свабоды рабамі з Поўдня ЗША і надаць ім таксама грашовую падтрымку на першы час. Пасьля сьмерці гэты тэстамэнт ня быў рэалізаваны, але самыя намеры генэрала шмат аб што гавораць, як і тое, што чарнаскуры памочнік-ад'ютант Касьцюшкі стаў ягоным сябрам і дарадцам. (Ад сябе аўтар гэтых радкоў можа дадаць, што гэтыя факты, што праўда, малавядомыя, не ўратавалі помнік Тадэвушу Касьцюшку ў Вашынгтоне перад Белым Домам ад вандалізацыі хунвэйбінамі-анархістамі й БЛМ у 2020 годзе.) Спадчына Касьцюшкі, ягоная барацьба за свабоду, па словах сп. Оліша, застаецца натхненьнем і скіраваньнем да дзеяньняў таксама і для сёнешніх амэрыканцаў, і гэта асабліва актуальным у справе падтрымкі Ўкраіны ў змаганьні супраць расейскай агрэсіі.

Затым са словамі прывітаньня выступілі прадстаўнікі ўкраінскай грамады Іванка і Андрый Заяц з Украінскага Канрэсовага Камітэту. Яны павіншавалі прысутных з нацыянальным сьвятам Беларусі й цудоўнымі помнікамі нацыянальным героям, падзякавалі за дапамогу і падтрымку для Ўкраіны ў справе збору сродкаў у фонд перамогі над расейскімі агрэсарамі. Затым да прысутных зьвярнуліся прадстаўнікі летувіскай грамады Дыяна і Вітас, яны нагадалі што праз усе значныя падзеі для беларусаў і летувісаў з 1794 году – паўстаньне Касьцюшкі, паўстаньне1863 году і абвешчаньня незалежнасьці нашымі краінамі ў 1918 годзе беларусы й летувісы крочылі побач, змагаючыся супраць Расейскай імпэрыі і падзялялі лёсы нашчадкаў зь зямель Вялікага Княства Літоўскага. А цяпер шмат хто зь летувісаў і беларусаў змагаюцца на баку Ўкраіны ў шэрагах замежнага легіёну пры Ўзброеных Сілах Украіны (ВСУ). Прамоўцы пажадалі, каб памяць пра двух герояў, што дарагія, як беларусам, так і летувісам, палякам, а таксама і ўкраінцам, дапамагала працягваць змаганьне за свабоду супраць расейскага імпэрыялізму і шавінізму, і каб мы трымаліся разам, і каб не забыліся пра словы нашых папярэднікаў "За вашу і нашу свабоду!"



*Генік Лойка*

Затым са словам аб стварэньні помнікаў-бюстаў выступіў іхны аўтар скульптар Гэнік Лойка. Ён распавёў аб праекте стварэньня помніка Касьцюшку ў ягоных родных мясьцінах, які быў пасьпяхова рэалізаваны, і пра запросіны стварыць помнікі Касьцюшку і Каліноўскаму ў Нью-Ёрку. Штуршком да стварэньня помніка Касьцюшку на ягонай бацькаўшчыне было стварэньне беларускай грамадой помніка Касьцюшку ў горадзе, у якім герой правёў апошнія гады жыцьця – у Залатурне, Швайцарыя. Цікава, што скульптар Анікейчык, аўтар помніка-бюста Янку Купалу ў Эраў-Парку яшчэ з савецкіх часоў быў прафэсарам і настаўнікам Гэніка Лойкі, калі ён вучыўся ў Тэатральна-Мастацкім Інстытуце ў Менску. Ня так даўно ў Беларусі паўстаў помнік Т. Касьцюшку, але там дасюль няма поўнафігурнага помніка Кастусю Каліноўскаму. Але настане час, і мы будзем ствараць на нашай зямлі помнікі беларускім героям, і Касьцюшка з Каліноўскім зоймуць свае пачэсныя месцы на педэсталах.

Затым з прывітальнымі словамі выступілі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў. Сп. Віталь Зайка зь Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" адзначыў, што цяпер беларуская прысутнасьць у Амэрыцы робіцца літаральна заўважнай, і што помнікі надаюць гонару і ўпэўненасьці ў сваіх сілах нашай беларускай грамадзе.

Сп-ня Ірына Хадарэнка выступіла ад Беларускай Асьветніцкай Лігі Амэрыкі і падзякавала за выдатны праект, які ставіць Беларусь "на культурную мапу Нью-Ёрку і Амэрыкі" і, між іншага, сказала, што яна звычайна адказвае на пытаньне: "А дзе гэтая Беларусь?", – словамі: "Ведаеце Расею? Вось яна знаходзіцца паміж Беларусьсю і Аляскай!" Прамоўца прапанавала правесьці 2 красавіка "Дзень разьяднаньня з Расеяй" каля расейскага кансуляту.

Сп. Юры Беленькі ад Партыі КХП-БНФ адзначыў, што памяць пра нашых нацыянальных герояў застаецца як ніколі актуальнай, і што пагроза Расеі была надзвычайнай праблемай як у часы Касьцюшкі і Каліноўскага, гэтаксама і ў наш час. А пра пагрозу расейскага імпэрыялізму правідча папярэдзіў Зянон Пазьняк яшчэ ў 1994 годзе, хоць тады шмат хто яму не паверыў.

З прывітаньнямі і кароткімі словамі пра дзейнасьць сваіх арганізацыяў выступілі прадстаўнік Парафіяльнай Рады Сабору сьв. Кірылы Тураўскага сп. Расьціслаў Гарошка, прадстаўніца аддзелу БАЗА ў Маямі сп-ня Паліна Чарняк, і прадстаўніца аддзелу БАЗА ў Паўднёвай Флёрыдзе сп-ня Аляксандра Пушкарова. Сп. Уладзімер Цяліца павіншаваў прысутных з выдатным набыткам для беларускасьці й нагадаў, што ў Бібліі сказана, што "Перамога ад Госпада – слова", дык ня можа быць перамогі без сваёй мовы, без адраджэньня беларускасьці.

Затым вядучая сп-ня Натальля Федарэнка падзякавала ўсім прысутным за падтрымку і запрасіла падсілкавацца прысмакамі ды ўзьняць келіх віна за пасьпяховае ажыцьцяўленьне праекту і адкрыцьцё помнікаў, "нават дождж нам паспрыяў – пайшоў пасьля скончэньня імпрэзы каля помнікаў".

**Віталь ЗАЙКА**

# Мітынг на Дзень Волі супраць акупацыі Беларусі




У пятніцу, 25 сакавіка 2022 году, перад кансулятам Расейскай Фэдэрацыі на Мангэтане прайшоў мітынг супраць расейскай акупацыі Беларусі і супраць расейскай агрэсіі й вайны ва Ўкраіне. Мітынг быў прымеркаваны да Дня Волі – угодкаў незалежнасьці Беларусі і абвешчаньня БНР 25 сакавіка 1918 году і арганізаваны супольна Беларускай Асьветніцкай Лігай Амэрыкі, Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня”. У расейскім кансуляце акурат быў прысутны дзень, і проста каля месца правядзеньня стаяла чарга ў кансулят.

Напачатку выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка, ён падкрэсьліў, што вайна, пачатая Расеяй супраць Украіны, зьяўляецца сапраўды братабойчай, і, нажаль, тэрыторыя Беларусі выкарыстоўваецца расейцамі для таго, каб атакаваць Украіну і сеяць там сьмерць. Застаецца таксама пагроза, што расейскі рэжым змусіць рэжым Лукашэнкі прыняць поўны ўдзел у агрэсіі, з выкарыстаньнем войска РБ у вайне на абшары Ўкраіны. Адной з прычынаў сёнешняга стану была млявая і невыразная рэакцыя Захаду на папярэднія агрэсіўныя напады Расеі ў Грузіі, Крыме і Данбасе, і недастатковая рэакцыя на рэпрэсіі ў Беларусі. І таму сабраўся сёньня гэты мітынг, і таму важна падкрэсьліваць, што пачынаючы ад увядзеньня расейскіх войскаў у Беларусь у студзені 2022 году для так званых вайсковых манэўраў “Саюзная рашучасьць”, што былі прэтэкстам для перакіду войскаў да паўночнай мяжы Ўкраіны для атакі на яе, рэжым Лукашэнкі страціў сувэрэнітэт. Фактычна Беларусь цяпер зьяўляецца акупаванай краінай, і дзеяньні расейскіх акупантаў знаходзяцца па-за кантролем рэжыму ў Менску. Лукашэнка ў выніку сваёй 28-гадовай палітыкі па дэнацыяналізацыі й русыфікацыі краіны давёў яе да сёнешняга ганебнага стану, да стану акупацыі, стану страты сувэрэнітэту і рэштаў незалежнасьці, да стану краіны-парыі ў вачах міжнароднай супольнасьці, краіны-памагатага ў агрэсіі. Ва ўмовах акупацыі, аднак, акупаваная краіна ня можа несьці адказнасьці за дзеяньні акупантаў і мясцовых калябарантаў. Так было ў выпадку Аўстрыі падчас 2-й сусьветнай вайны і ў выпадку Францыі, з тэрыторыі якой, дарэчы, нацысты абстрэльвалі Брытанію ракетамі “Фаў”. Аднак акрамя юрыдычнай адказнасьці ёсьць адказнасьць сумленьня, адказнасьць маральная. І ў гэтым сэнсе беларускі народ нясе сваю долю адказнасьці за тое, што адбываецца. І таму людзі не маўчаць і патрабуюць сёньня: “Спыніць расейскую акупацыю Беларусі!”, “Пуцін – прэч зь Беларусі!” Мы патрабуем: “Спыніць вайну ва Ўкраіне! Пуцін – прэч з Украіны!”

Затым выступіў сп. Дзяніс Саклакоў, які падкрэсьліў усю ганебнасьць расейскага нападу на Ўкраіну, бамбардаваньні й абстрэлы, забойства мірных жыхароў. Сьмерць сотняў украінскіх дзяцей у Марыюпалі, Харкаве, Кіеве ды іншых гарадах і мястэчках Украіны. Міжнародная супольнасьць павінна больш рашуча адрэагаваць на расейскую агрэ-

заканчэньне на бачыне 4



# МІЖНАРОДНЫ ЧЭСКА-ЎКРАІНСКІ ЧАСАПІС
# “МАНДРІВНИК”




Выйшаў у сьвет 10-ы нумар міжнародны чэшска-ўкраінскі часапіс “Мандрівник” (№ 10, 4-ы год выданьня, 2022 г.), прысьвечаны ў прыватнасьці беларускай культуры і беларуска-ўкраінскім культурным узаемаадносінам.

На вокладцы часапіса надрукаваны ў беларускім арыгінале верш Максіма Багдановіча “На чужыне”.

У часапісе, што датычыцца беларускай культуры і беларуска-ўкраінскіх культурных адносінаў, надрукаваныя: анонс-рэцэнзія пра альманах “Беларус” (Том 15) (Нью-Ёрк: В-ва “Беларус”, 2021 г.), эсэ ўкраінскага пісьменьніка і галоўнага рэдактара часапіса “Мандрівник” Алега Паўліўа (Чэхія/Украіна) “Словы вялікіх – вялікія словы”, прысьвечанае беларускаму палітыку-дысыдэнту Зянону Пазьняку (ЗША/Польшча), а таксама верш беларускага паэта-дысыдэнта Алеся Плоткі “Ліст Шчуру”, прысьвечаны паэту-дысыдэнту Максіму Шчуру (Чэхія), і перакладзены зь беларускай на ўкраінскую мову ўкраінскім паэтам Лёсікам Панасюком.

Украінцы зь беларусамі! Беларусы з украінцамі!
Слава Ўкраіне! Жыве Беларусь!

***Алег ПАЎЛІЎ**, галоўны рэдактар часопіса”Вандроўнік”*
*Адмыслова для “Вестак й Паведамленьняў”*

## Мітынг на Дзень Волі

***заканчэньне з бачыны 3***

сію, перакрыць неба Ўкраіны для расейскіх забойцаў, узброіць яе ўсім неабходным вайсковым рыштункам, самалётамі, ракетамі й сыстэмамі супрацьпаветранай абароны.

У сваім слове прадстаўнік БАЗА сп. Міхась Чаропка падкрэсьліў, што беларусы выступаюць супраць акупацыі сваёй краіны Расеяй і супраць выкарыстаньня абшару Беларусі для агрэсіі ва Ўкраіне. І беларусы робяць дыверсіі на чыгунцы супраць расейскіх вайсковых перавозак, а беларускія дабрахвотнікі са зброяй у руках, гэтак як сябры баталёну “Кастусь Каліноўскі”, выступаюць у абарону братняга народу Ўкраіны.

Затым выступіла кіраўніца Беларускай Асьветніцкай Лігі Амэрыкі сп-ня Ірына Хадарэнка, яна павіншавала прысутных са сьвятам Дня Волі – угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, і падкрэсьліла, што беларусы не маўчаць, беларусы патрабуюць спыненьня акупацыі іхнай краіны Расеяй і спыненьня вайну ва Ўкраіне, адказнасьць за падпальваньне якой ляжыць на рэжыме Пуціна, але ўсе, хто падрымаў агрэсію, таксама нясуць віну за гэта.

Удзельнікі мітынгу выгукалі лёзунгі: “Свабоду Беларусі!” “Спыніць вайну!” “Далоў Пуціна!” Затым грамада вырушыла са сьцягамі й плякатамі ўздоўж Сэнтрал-Парку да штаб-кватэры Аб’еднаных Нацыяў у суправаджэньні эскорту матацыклістаў нью-ёрскай паліцыі. Удзельнікі несьлі вялікі беларускі нацыянальны сьцяг-расьцяжку. Каля ААН мітынг быў працягнуты, перад прысутнымі выступіла старшыня БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка.

Вялікая падзяка ад арганізатараў належыць супрацоўнікам 19-га пастарунку нью-ёркскага дэпартамэнту паліцыі.

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**В. Балашчэнка ...........60**
**В. Петрушэнка ...........60**

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня“Пагоня”**
***Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных “Пагоняй”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**Я. Сапежынскі ............50**
**В. Балашчэнка ............30**
**В. Біліда ...................30**
**Т. Бэрд ....................30**
**В. Едзіновіч ...............30**
**І. Кулеш ...................30**
**К. Макарэвіч ..............30**
**В. Петрушэнка ............30**
**Л. і П. Рыжыя .............30**
**В. Чарняк .................30**

**Усім шчыры дзякуй!**